*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 44(100) ◈ 4 лістапада 1992 г. ◈ Кошт 1 рубель (Па падпісцы — 10 кап.)



## ПОСТУП ТЫДНЯ

***УПЕРШЫНЮ Ў БЕЛАРУСІ АФІЦЫЙНА АДСВЯТКАВАНЫ «ДЗЯДЫ».***

**ТРЭЦІ ТЫДЗЕНЬ ПРАЦУЕ СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ. За гэты час на ёй разгледжана больш дзесяці пытанняў. Адно з найбольш важных — рэферэндум. Пасля доўгіх спрэчак быў прыняты пункт пастановы аб адмове ў правядзенні рэферэндуму ў сувязі з парушэннямі заканадаўства. «За» прагаласавала 202 дэпутаты, 35 былі супраць, 35 устрымаліся. Вярхоўным Саветам прынята заява аб неабходнасці паскарэння канстытуцыйных працэсаў у Рэспубліцы Беларусь. Так, у сакавіку 1994 года мяркуецца правесці датэрміновыя выбары ў Вярхоўны Савет.**

***СТАРШЫНЯ НАЦЫЯНАЛЬНАГА БАНКА СТАНІСЛАЎ БАГДАНКЕВІЧ «АБРАДАВАЎ» ГРАМАДЗЯН БЕЛАРУСІ, сказаўшы ў сваім выступленні, што мы не навучыліся гандляваць, а толькі ўмеем пастаўляць. Мы падаравалі 100 мільярдаў Расіі. І няма ніякіх спадзяванняў, што іх Беларусі вернуць. Да ўсяго галоўны банкір рэспублікі сказаў, што лепш бы тое мяса раздаць бясплатна тут у гарадах і вёсках, чым везці яго ў Санкт-Пецярбург. Ці не разумная думка?***

**З РАБОЧЫМ ВІЗІТАМ У МАСКВЕ ЗНАХОДЗІЎСЯ СТАРШЫНЯ САВЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ В. КЕБІЧ, які быў прыняты прэзідэнтам Расійскай Федэрацыі Б. Ельцыным, сустракаўся з выконваючым абавязкі старшыні ўрада Расійскай Федэрацыі Я. Гайдарам. У ходзе перамоў адбыўся абмен думкамі па пытаннях расійска-беларускіх адносін. Бакі дамовіліся паскорыць ратыфікацыю дагавора аб каардынацыі дзейнасці ў ваеннай галіне ад 20 ліпеня 1992 года. Па выніках перамоў падпісана пагадненне ўрадаў і цэнтральных банкаў аб бліжэйшых мерах па ўрэгуляванні ўзаемных разлікаў і скарачэнні неплацяжоў паміж суб'ектамі гаспадарання.**

***У МЕНСКУ 1 ЛІСТАПАДА Ў ДОМЕ ЛІТАРАТАРА АДБЫЎСЯ ЎСТАНОЎЧЫ СОЙМ ЗГУРТАВАННЯ БЕЛАРУСКАЙ ШЛЯХТЫ — ДОБРААХВОТНАЙ НАВУКОВА-КУЛЬТУРНАЙ ГРАМАДСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ.***

## ДВУХМОЎЕ – ГЭТА ЗНІШЧЭННЕ НАЦЫІ

### *ДА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ*

«Мы, супрацоўнікі Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі, заклікаем народных дэпутатаў Вярхоўнага Савета захаваць за беларускай моваи статус адзінай дзяржаўнай мовы ў нашай Рэспубліцы. Улічваючы ступень зрусіфікаванасці грамадства, існуючую моўную сітуацыю, цеснае суседства з рускім этнасам, толькі дзяржаўнасць беларускай мовы можа ў перспектыве прывесці да сапраўднай беларуска-рускай моўнай роўнасці. У іншым выпадку нас чакае поўная асіміляцыя, а Беларусь — страта незалежнасці.

26 кастрычніка 1992 года».

**Дакумент падпісалі 24 чалавекі.**

Звароты аналагічнага зместу Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь накіравалі таксама супрацоўнікі Інстытута літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі (22 подпісы), супрацоўнікі Беларускага рэстаўрацыйна-праектнага інстытута (40 подпісаў), а ў даведзенай да ведама Вярхоўнага Савета пастанове адкрытага сходу ТБМ імя Ф. Скарыны Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі адзначана: «Кампанію па ўвядзенню ў Рэспубліцы Беларусь двухмоўя лічыць варожай дзейнасцю пэўных колаў грамадства, накіраванай на эканамічнае і духоўнае зняволенне беларускага народа».

**Рэдакцыя «Нашага слова» падтрымлівае гэтую пазіцыю.**

### *СЛОВА ДА НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ*

Слухаючы вашы выказванні адносна дзяржаўнай мовы Рэспублікі Беларусь, усё больш пераконваюся, што ніякія вы не народныя дэпутаты, а хутчэй тайныя агенты замежнай краіны, якія падманным шляхам заручыліся даверам выбаршчыкаў. Бо як разумець тое, што, трапіўшы ў наш парламент, дзе, прыкрываючыся чырвоным слоўцам аб сваім патрыятызме, вы імкнецеся да канчатковага знішчэння беларусаў як этнаса ў недалёкай перспектыве. Які ж Народны Дэпутат будзе пераконваць парламент і свой народ, што нацыі не абавязкова мець нацыянальную мову ў якасці адзінай дзяржаўнай? Вы стаіце гарой, каб і руская мова была дзяржаўнай. Дык што, хіба рускіх у нас хоць бы палова насельніцтва? Вы спасылаецеся на шырока распаўсюджанае рускамоўе. Але ж два стагоддзі назад гэтак жа шырока была распаўсюджана на нашай зямлі польская мова. Ці адбывалася гэта з волі самога нашага народа? Заходнія і ўсходнія народы-браты з такой любоўю хапалі браткоў-беларусаў у адбымкі, што ў іх сіл не заставалася слова на роднай мове сказаць. Не ведаеце гэтага?

Ды не! Усё вы ведаеце, але дзеля сваіх прыватных інтарэсаў робіце ўсё, каб захаваць стан, з якога вам лягчэй бэсціць нас, не толькі пашпартных беларусаў, што мы, маўляў, ні культуры, ні мовы, ні душы нацыянальнай не маем.

Маем! Ды яшчэ якую! І Культуру, і Мову, і Душу! І вам ніколі не вытравіць гэтага з нашай свядомасці.

Было б па-справядліваму школу і дзяржаўныя ўстановы перавесці на родную мову, працягам аднаго, 1992 года. І не адчайвайцеся! Ніхто не забараняе гаварыць на такой мове, на якой жадаеш.

Другое патрабаванне: увесь перыядычны друк, акрамя выданняў, што выдаюцца нацыянальнымі меншасцямі, неадкладна перавесці на беларускую мову.

Як бы вы ні стараліся прыкрывацца фразай, ваша варожасць да нашай нацыі, да яе гісторыі, да роднай мовы кожнаму добра бачна. Даруйце, але проста сорамна мець такіх дэпутатаў...

**В. СКАРАХОД,**
**пенсіянер.**

г. Менск.

## ПАЧАКАЕМ?

**12 кастрычніка ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь адбылася сустрэча Станіслава Шушкевіча і Вячаслава Кебіча з беларускімі пісьменнікамі.**

Відаць, кожны ведае, што сур'ёзных падстаў для занепакоенасці лёсам беларускай літаратуры і роднай мовы сёння хапае. Дастаткова зайсці ў любую кнігарню ці спыніцца ля якога-небудзь кніжнага кіёска, каб адразу пераканацца, што паліцы, вітрыны скрозь завалены так званымі камерцыйнымі выданнямі, аб культурных альбо эстэтычных вартасцях якіх часцей за ўсё гаварыць проста не выпадае. Беларуская ж кніга сціпла туліцца ў якімсьці куточку, а то яе і зусім не ўбачыш. Зрэшты, гэта не дзіўна, бо тыражы беларускамоўных выданняў год ад году змяншаюцца, хранічна не выконваюцца і выдавецкія планы на такую прадукцыю. Каб хоць крышку выратаваць становішча, рэспубліканскія выдавецтвы апошнім часам вымушаны друкаваць беларускія мастацкія і навукова-папулярныя кнігі на перыферыі, у раённых друкарнях. Але гэта, несумненна, вядзе да страты выдавецкіх якасцей, а значыць, не спрыяе росту і без таго невысокай канкурэнтнай здольнасці нашай нацыянальнай літаратуры. Аўтарскія ганарары за беларускія кнігі ў сённяшніх умовах татальнага цэнавага шоку часта з'яўляюцца проста сімвалічнымі.

Пра ўсё гэта і іншае з набалелага расказвалі пісьменнікі. Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі паэт Васіль Зуёнак, у прыватнасці, адзначыў: «Па літаратуры, як і па ўсёй культуры, мяркуюць пра ўзровень «дзяржаўнасці», бо любая сапраўды суверэнная дзяржава, якая сябе паважае, перш-наперш паважае сваю культуру і мову. Паэт Уладзімір Паўлаў сказаў, што ганьба той дзяржаве, дзе народны пісьменнік атрымлівае пенсію меншую за любога прапаршчыка, а падобныя прыклады ў нас, на жаль, ёсць...

Не трэба думаць, што пісьменнікі толькі прасілі грашовай падтрымкі. На сустрэчы прагучалі таксама канкрэтныя дзелавыя прапановы, скіраваныя на выхад з крызісу, у якім апынулася беларуская кнігавыдавецкая справа. Так, старшыня Літфонда Нічыпар Пашкевіч спыніўся на хібах дзеючага заканадаўства, якое дазваляе камерцыйна-кааператыўным выдавецтвам нажываць мільёны на творчай працы пісьменнікаў і перакладчыкаў. Рэдактар часопіса «Вожык» Валянцін Блакіт выказаў думку аб неабходнасці змены сістэмы падаткаабкладання беларускамоўных выданняў, бо разавыя датацыі Саўміна ў значнай ступені з'ядаюцца празмерна высокімі падаткамі. І гэта пры тым, што пастаянна даражэе і даражэе папера, друкарскія паслугі, кошт дастаўкі прадукцыі...

Старшыня Савета Міністраў рэспублікі запэўніў, што ўраду добра вядомы цяперашнія праблемы нацыянальнай культуры. Ён гарантаваў падтрымку ў пашырэнні дзяржаўнага заказу на беларускую літаратуру, паабяцаў, што памер аўтарскага ганарару неўзабаве будзе ўвязаны з узроўнем мінімальнай зарплаты, якая вось-вось павінна павялічыцца ў два разы, выказаў намер урада забараніць продаж камерцыйна-парнаграфічнай літаратуры ў рэспубліцы.

Ізноў пачакаем?

**С. КОСІЧ.**

### WIS

*Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь распрацавала праграму забеспячэння дзейнасці ўстаноў аховы здароўя на 1992—1993 гады, у якой прадугледжваецца ўвядзенне платных медыцынскіх паслуг. Савет Аб'яднання галіновых прафсаюзаў Менскай вобласці выступіў супраць праграмы, бо, на яго думку, увядзенне ў дзеянне гэтай праграмы прывядзе насельніцтва да большага збяднення.*

❖❖❖

*Савет Міністраў РБ прызначыў Ігара Чарняўскага першым намеснікам начальніка Галоўнага ўпраўлення па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі і культуры пры Савеце Міністраў РБ.*

*Меркаванні*

# ІСЦІ СВАІМ ШЛЯХАМ

МНЕ здаецца, што зараз, праз 2 гады пасля прыняцця «Дэкларацыі аб суверэнітэце», праз год пасля абвяшчэння Незалежнасці, мы зноў апынуліся перад выбарам, які вызначыць, ці здольныя мы надалей існаваць у свеце як народ. Былыя «інтэрнацыяналісты» вядуць гаворку аб «паспешлівасці» ў правядзенні беларусізацыі, а то і аб яе «шкоднасці». Спасылаюцца на сучаснае бядотнае становішча беларускай мовы, на пагарду да яе саміх беларусаў, дабіваюцца надання дзяржаўнасці на Беларусі расійскай мове. Гэтыя дзеячы лічаць, што беларуская мова памірае ў выніку заканамернага і натуральнага працэсу. Таму сфармуляваць пытанне можна наступным чынам: альбо знікненне беларускай мовы — гэта цалкам натуральны працэс, і тады намагацца яе адрадзіць — марная трата сіл, альбо цяперашняе становішча беларускай мовы — вынік шматгадовай гвалтоўнай палітыкі паланізацыі і русіфікацыі, якую па чарзе ажыццяўлялі асімілятары з Усходу і Захаду.

Менавіта апошняе пацвярджаецца гістарычнымі фактамі. Пісалася пра гэта шмат, але варта прыгадаць некаторыя моманты. Адразу пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі працягвалася і нават узмацнілася паланізацыя. Тры паўстанні (1794, 1830, 1863 гадоў) прымусілі расійскі ўрад спахапіцца і ўзяцца за русіфікацыю. Адметную ролю тут адыграў М. М. Мураўёў, добра вядомы, як «вешальнік». У спецыяльнай праграме «умиротворения края», якая была ўхвалена імператарам у красавіку 1864 года і з таго часу няўхільна выконвалася, Мураўёў пісаў: **«...2) устроить и по возможности возвысить достоинство православного духовенства, для чего Ваше Императорское Величество соизволили приказать отпускать ежегодно по 400 тысяч рублей на добавочное содержание... 3) заняться устройством православных храмов, для чего я испрашивал ещё 500 тысяч рублей в добавок к расходу, производимого мною из контрибуционных сумм** (кантрыбуцыі накладаліся на ўдзельнікаў паўстання 1863—1864 гг.: на тыя грошы пачалі будавацца так званыя «мураўёўкі» — цэрквы псеўдарускага стылю, з «цыбулінамі», не характэрнымі для беларускай архітэктурнай традыцыі,— па ўсёй Беларусі ў вялікай колькасці — В. С.), **на что и последовало впоследствии разрешение; 4) умножить по возможности число русских школ как между христианами, так и евреями, дабы русская речь была всюду господствующею, как и подобает быть в русском крае; ...7) водворить на прочных основаниях русский элемент в крае, для чего поселять русских крестьян на конфискованных за мятеж землях и приглашать русских к покупке имений в том крае с предоставлением им льгот на основании составленных в Министерстве государственных имуществ и высочайше одобренных Вашим Императорским Величеством правил с новыми добавлениями о наделении русских чиновников участками до пятисот десятин и более, с рассрочкою уплаты денег в известный период времени, дабы тем самым улучшить быт русских деятелей в могущих быть там земских собраниях; 8) для будущего прочного обеспечения власти русского правительства замещать постоянно все главные должности, в особенности же полицейские и соприкасающиеся непосредственно с народом, лицами русскими, вызванными из сердца империи. Для поощрения же русских деятелей Вашему Императорскому Величеству благоугодно было разрешить им прибавку 50 % к содержанию».**

Адзін гэты дакумент выразна паказвае сродкі русіфікацыі, якімі сталі царква, школа і каланізацыя шляхам перасялення.

Кананізаваны расійскімі «патрыётамі» П. А. Сталыпін, абвясціўшы лозунг «Россия для русских», увёў на Заходняй Беларусі і Украіне земствы такім чынам, каб надаць тады яшчэ нешматлікім расійскім памешчыкам і чыноўнікам пануючую ролю ў мясцовым кіраванні.

Асобае значэнне надавалася школе. Папячыцель Мураўёва кіраўнік Віленскай навучальнай акругі Карнілаў «сфармуляваў» гэта так: «Русское образование сильнее русского штыка». Цікава, што сваю таленавітую руку да справы русіфікацыі прыклаў і «неистовый Виссарион» — В. Бялінскі. Спадзеючыся ўладкавацца працаваць настаўнікам на Беларусі, ён выклаў свае меркаванні наконт больш паспяховых метадаў русіфікацыі ў сваіх нататках, адрасаваных кіраўніку навучальнай акругі. На працу яго не ўзялі, але ідэі шырока скарысталі.

Ну і, вядома, пасля захопу ўлады бальшавікамі (за выключэннем кароткага перыяду другой паловы 20-ых гадоў) пачалося проста фізічнае вынішчэнне нацыянальнай інтэлігенцыі — носьбітаў беларускай культуры і мовы, пасля чаго мы павінны былі канчаткова «зліцца».

Колькі ж гвалту і грошай спатрэбілася, каб дапамагчы «вымирающему наречию» памерці! Дзіўна нават, што пасля ўсяго беларуская мова ўсё ж дажыла да нашых дзён!

Цяпер зноў з Усходу плыве сюды густы смурод «патрыятызму». Заходзячыся ад крыку пра «масонства», пэўныя ідэолагі разлічваюць пасеяць у свядомасці беларусаў ідэю «славянскай еднасці» перад пагрозай нейкай «сусветнай масонскай змовы». На самой жа справе яны імкнуцца прымусіць беларусаў не толькі, як раней, саромецца, а і баяцца сваёй беларускасці. І тут яднанне шавіністаў з былымі камуністамі невыпадковае. Не «инородцы», а лепшыя расійскія філосафы загаварылі пра тое, што крыніцай расійскага камунізму ва ўсёй ягонай дэспатычнасці і крыважэрнасці з'яўляецца расійская нацыянальная самасвядомасць і расійская нацыянальная традыцыя. Расія аддала камунізму свой месіянізм. Таму толькі ў Расіі камунізм набыў савецкія асаблівасці, а потым паступова распаўсюдзіўся спачатку ў межах былой імперыі, а затым і далей па традыцыйных напрамках расійскай знешняй палітыкі. Хто ж каму дапамог: расійскі імперыялізм расійскаму камунізму ці наадварот? Недарэмна ж яны зноў паядналіся і ў Расіі, і ў нас, у незалежнай Беларусі.

Расія сама спрабуе зараз вызваліцца ад цяжару векавога дэспатызму, абапіраючыся на тыя элементы народапраўства, якія былі ў яе гісторыі. Але ў кожнага народа дарога з рабства свая. У нас традыцыі народапраўства і законнасці шмат глыбейшыя і багацейшыя, чым у Расіі. Засвоіць, ажывіць свае нацыянальныя дзяржаўныя традыцыі (а традыцыя — гэта падмурак дзяржаўнага ладу) мы можам толькі праз адраджэнне нацыянальнага светапогляду, праз адраджэнне мовы. Без гэтага ўсе набыткі беларускай гісторыі ў галіне дзяржаўнага ладу і права застануцца для нас чужымі, як чужымі з'яўляліся для выхаваных савецкай школай беларусаў вялікія князі літоўскія, «цемрашалы» Францішак Скарына і Ефрасіння Полацкая, словы «сойм», «магістрат», «рада», герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг. Без гэтага нас зноў «далучаць», і далейшы шлях нашага развіцця будзе зноў вызначацца вядомымі расійскімі асаблівасцямі: доўгі застой, а затым рэвалюцыя зверху з «подстёгиванием» народа пры дапамозе жорсткіх масавых рэпрэсій, якія ўжо ўвасобіліся ў крывавым ланцугу Іван Грозны — Пётр І — Сталыпін — Сталін.

Нам няма патрэбы ісці гэтым шляхам! Хопіць нам і тых пакут, якія перанёс наш народ за 200 гадоў!

Ідэалам расійскіх шавіністаў з'яўляецца (і не можа не з'яўляцца) менавіта Расійская імперыя, якую зараз з дапамогай маскоўскіх сродкаў масавай інфармацыі імкнуцца паказаць у як мага больш прывабным святле.

Згадзіцеся: Расія без Беларусі і Украіны мае шанцы выйсці ў Еўропу. Але калі яна вернецца да імперскага стану, то назаўжды застанецца на перыферыі цывілізаванага свету. Тое ж і мы, толькі стаўшыся суверэннымі, што не выключае добрасуседства, маем шанц пазбавіцца свайго жабрацтва і рабства. Таму адраджэнне мовы для нас азначае вяртанне на свой уласны шлях гістарычнага развіцця.

Узнікае яшчэ адно пытанне да праціўнікаў беларусізацыі. Калі зараз рэчаіснасць падштурхнула грамадства да радыкальных рэформаў у эканамічнай і сацыяльнай галінах, то ці можна сумнявацца ў неабходнасці такіх самых радыкальных зменаў у сферы культуры? Болей таго: ці магчымыя рэформы ў эканоміцы і ладзе жыцця без змен у свядомасці асобнага чалавека і цэлага народа наогул? Агульнавядома, што традыцыйная народная культура — падмурак, вытокі сучаснай культуры, дык чаму ж за апошнія 70 год лад жыцця і свядомасць чалавека перажылі такія скажэнні, адхіленні ад натуральнага развіцця? Але толькі ў нас, напэўна, можна сустрэць людзей, якія з павагай ставяцца да беларускай культуры, але не жадаюць вывучаць родную мову. Не ведаючы сваёй мовы, будзем і заўтра вымушаныя піць з крыніцы чужых традыцый. А адмаўляючыся стаць беларусамі, назаўжды застанемся «рускімі» другога гатунку (бо гаварыць усё роўна будзем «як хацім» — акцэнт выдасць).

Пэўныя недарэчнасці на шляху адраджэння беларускай мовы ўзнікаюць з-за той акалічнасці, што нармальнае функцыянаванне мовы як сістэмы на Беларусі адбывалася ў форме, дзе месца літаратурнай беларускай мовы займала расійская мова. Для большасці людзей, якія не маюць спецыяльнай філалагічнай адукацыі, такіх з'яў, як літаратурная мова і дыялект, не існуе. Для іх існуе мова «простая», «вясковая», і мова «афіцыйная», «адукаваная», «гарадская». Беларуская мова, працягваючы існаваць у мясцовых дыялектных гаворках у вёсцы, не мела шанцаў у сваёй літаратурнай форме стаць агульнанацыянальнай і «гарадской» мовай. А для ўсведамлення народам агульнанацыянальнага характару сваёй літаратурнай мовы вызначальнае значэнне мае менавіта практычнае карыстанне ёю ў якасці «афіцыйнай» і «гарадской». Таму цяпер, калі простага беларуса (без філалагічнай адукацыі) заклікаюць адмовіцца ад расійскай (якая была і ёсць «афіцыйнай», «гарадской») і вярнуцца да сваёй роднай мовы, ён часцяком спыняецца на гаворцы сваёй вёскі, свайго рэгіёна. У выніку можна пачуць, што, маўляў, мова, на якой гавораць у маёй вёсцы, не падобная да беларускай. Для жыхароў Усходняй Беларусі літаратурная беларуская мова здаецца падобнай да польскай, а ў Заходняй — падобнай да расійскай. Гэтая недарэчнасць, мне здаецца, стварае, так бы мовіць, лінгвістычную аснову палітычнага сепаратызму на Беларусі, у прыватнасці, заходне-палешуцкага казусу. Таму ў прынцыпе ніякае культурнае адраджэнне без рэальнай дзяржаўнасці беларускай мовы немагчыма. Больш таго: калі літаратурная беларуская мова не атрымае шанцаў зацвердзіцца ў якасці агульнанацыянальнай, «афіцыйнай», то небяспецы падвяргаецца цэласнасць Беларусі як суверэннай дзяржавы.

**Віктар СЦЯПАНАЎ.**

**г. Орша.**

## ДА ВЕДАМА ЎДЗЕЛЬНІКАЎ ВІКТАРЫНЫ ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ «СТАРАДАЎНЯЯ БЕЛАРУСЬ»

*Правільныя адказы на пытанні, якія ставіліся ў трох турах:*

### ТУР ПЕРШЫ

1. Да прыходу славян на тэрыторыі Беларусі жылі плямёны балтаў, а на паўночным усходзе — угра-фінаў.
2. Крывічы заснавалі княствы Полацкае і Смаленскае.
3. Полацкае княства мела выхад да Балтыйскага мора ў вусці Заходняй Дзвіны і страціла яго ў 1201 годзе ў выніку пабудовы Рыгі крыжакамі і пераходу пад іх уплыў плямёнаў ліваў.
4. Полацкі князь Усяслаў Чарадзей быў абраны кіеўскім князем у 1068 годзе.
5. Ефрасіння Полацкая да пострыгу ў манашкі мела імя Прадслава.

### ТУР ДРУГІ

1. Першы летапісны ўспамін пра Менск адносіцца да 1067 года, калі аб'яднаныя сілы Кіеўскай Русі распачалі вайну супраць Полацкага княства, захапілі і спалілі горад, а жыхароў перабілі ці ўзялі ў палон.
2. Першай сталіцай Вялікага княства Літоўскага быў горад Навагрудак.
3. Кожнай часткі назвы адпавядалі наступныя землі: «Літоўскае» — тэрыторыя сучаснай Беларусі, Смаленшчына, Віленшчына; «Рускае» — тэрыторыя сучаснай цэнтральнай і заходняй Украіны; «Жамойцкае» — тэрыторыя сучаснай Літвы (без Віленшчыны).
4. Сталіцу ВКЛ з Навагрудка ў Вільню перанёс вялікі князь Гедымін.
5. Дзяржаўнаю моваю ў Вялікім княстве Літоўскім з'яўлялася старабеларуская, ці, як тады яшчэ казалі,— ліцвінская.

### ТУР ТРЭЦІ

1. Войскі Вялікага княства Літоўскага разбілі татара-манголаў на Сініх Водах і вызвалілі ад іх заходнюю частку Украіны ў 1362 годзе.
2. Шлюб вялікага князя Ягайлы з дачкою маскоўскага князя Дзмітрыя Данскога не адбыўся таму, што Ягайла атрымаў больш выгадную для сябе прапанову ажаніцца з польскай каралевай Ядвігай і стаць каралём Польшчы.
3. Каранацыя Вітаўта мела адбыцца ў 1429 годзе ў Луцку на Валыні, але да гэтага не дайшло — польская шляхта перахапіла пасланцоў з каронаю, асвечанаю Папам Рымскім.
4. У бітве пад Оршаю ў 1514 годзе беларускім войскам камандаваў князь Кастусь Астрожскі.
5. Рэч Паспалітую ў 1569 годзе ўтварылі Каралеўства Польскае і Вялікае княства Літоўскае.

Мы ўжо называлі пятнаццаць пераможцаў віктарыны, якія атрымаюць бясплатную падпіску на «Наша слова» на першае паўгоддзе наступнага года.

Але пры падвядзенні вынікаў высветлілася, што адказы на пытанні не толькі пераможцаў, а і значнай часткі яе ўдзельнікаў таксама могуць лічыцца станоўчымі. Праўда, адны чытачы адказалі недастаткова поўна, другія прыслалі свае адказы пазней тэрмінаў, вызначаных умовамі віктарыны, іншыя зрабілі не вельмі істотныя, зрэшты, памылкі і г. д.

Прозвішчы ўдзельнікаў віктарыны «Старадаўняя Беларусь», адказы якіх таксама заслугоўваюць станоўчай ацэнкі, будуць надрукаваны ў наступным нумары.

М. В.

# ПЛАНЫ БЕЛАРУСІСТАЎ

У Менску прайшло чарговае пасяджэнне бюро Міжнароднага камітэта беларусістаў, у якім удзельнічалі прадстаўнікі Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў (МАБ) Рэспублікі Беларусь, Англіі, ЗША і некаторых іншых дзяржаў.

Прэзідэнт МАБ Адам Мальдзіс падвёў вынікі дзейнасці беларусістаў нашай рэспублікі, засяродзіўшы галоўную ўвагу на тых мерапрыемствах па лініі Міжнароднай асацыяцыі, якія адбудуцца ў наступным годзе. Падкрэслена, у прыватнасці, што МАБ прыме актыўны ўдзел у арганізацыі і правядзенні кангрэса беларускіх гісторыкаў (Менск, студзень 1993 г.), канферэнцыі «Рым-4» у Гродне, прысвечанай нацыянальным і рэгіянальным культурам Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны (чэрвень 1993 г.), сусветным з'ездзе беларусаў і выхадцаў з Беларусі (восень 1993 г.) і інш. Важнейшай задачай МАБ з'яўляецца ўдзел беларусістаў у працы XI Міжнароднага з'езда славістаў у Браціславе (верасень 1993 г.).

Закраналіся і выдавецкія справы. Адрэдагаваны і здадзены ў друк I том штогодніка МАБ «Беларусіка. Al*barutenica*», дзе змешчаны матэрыялы I Міжнароднага кангрэса беларусістаў (выхад у свет мяркуецца ў пачатку 1993 г.), II том з дакладамі Маладзечанскай канферэнцыі рыхтуецца да друку. Выпушчаны ў свет матэрыялы міжнароднага круглага стала «Беларусь у Вялікім княстве Літоўскім». Перакладзены на беларускую мову, рэдагуюцца і рыхтуюцца да выдання кнігі Вітаўта Кіпеля пра беларусаў у Амерыцы, Анджэя Цеханавецкага пра гісторыю і культуру Слоніма і інш.

Канстатавана, што пачынае разгортваць сваю дзейнасць Нямецкая асацыяцыя беларусістаў, клопаты на арганізацыі якой узяў на сябе прафесар Ульрыхт Обст з Кёльнскага універсітэта. Было адзначана таксама значнае пашырэнне кола слухачоў сёлетняй Міжнароднай школы беларусістаў у Менску. Віцэ-прэзідэнт Джым Дынглі (Англія) паведаміў пра стыпендыі, якія прызначае маладым даследчыкам і бізнесменам Беларусі Міністэрства замежных спраў, Лонданскі універсітэт і Беларускі дабрачынны фонд у Англіі. Падбор кандыдатур ажыццяўляе МАБ. Справа ідзе аб трохгадовай праграме. Пры гэтым фінансуюцца тры стыпендыі штогод.

Абмяркоўваліся таксама перспектывы правядзення II Міжнароднага кангрэса беларусістаў. Прынята рашэнне аб узнагароджанні памятным медалём МАБ актыўных дзеячаў асацыяцыі.

**Генадзь ЦЫХУН,**
**вучоны сакратар МАБ.**

# *Новыя ліцэі*

Сёлета ў рэспубліцы будзе працаваць шэсць новых беларускіх ліцэяў, створаных пры Беларускім гуманітарным адукацыйна-культурным цэнтры. Адзін з іх у пачатку кастрычніка ўрачыста адкрыўся ў Койданаве (пакуль яшчэ Дзяржынск). Заняткі ў гэтым ліцэі — па нядзелях. Навучэнцы стануць вывучаць гісторыю Беларусі, гісторыю роднай мовы, архітэктуры, археалогію, паліталогію, асновы рэлігійных ведаў. У навучальны план таксама ўключаны лацінская мова, спецыяльныя курсы.

На ўрачыстасць прыехалі госці — вядомы гісторык, пісьменнік Мікола Ермаловіч і намеснік дырэктара Беларускага гуманітарнага культурна-адукацыйнага цэнтра Лявон Баршчэўскі. Яны віталі прысутных з адкрыццём новай беларускай навучальнай установы ў Койданаве і выказалі спадзяванне, што справа беларускага школьніцтва пашырыцца. Ды як жа інакш, калі ўжо сёлета з семнаццаці першых класаў у гарадскіх школах засталося толькі два, дзе ўсе прадметы выкладаюцца, як і ўчора, па-руску, калі на родную мову перайшлі ўсе дзіцячыя садкі. Дададзім, што адзінаму ў рэспубліцы беларускаму дзіцячаму летніку «Грунвальд» месца знайшлося пакуль толькі на Койданаўшчыне.

Фальклорны гурт «Спадчына» Койданаўскага гарадскога Дома культуры падрыхтаваў святочны канцэрт. З уласнай праграмай прыехалі з Менска дзяўчаты і хлопцы з маладзёжнай арганізацыі «Выбранецкія шыхты». Яны паказвалі прысутным старажытныя беларускія танцы, якія выконваліся пад дуду.

З прыемнасцю паведамляем таксама, што і ў Гародні адкрыўся новы беларускі ліцэй.

**Тодар ТАНКЕВІЧ.**

# «Выбар»



## ГАЗЕТА ВІЦЕБСКІХ ДЭМАКРАТАЎ ВЫЗНАЧЫЛА СВОЙ НАКІРУНАК

З першых выпускаў газеты дэмакратычных плыняў Прыдзвінска-Прыдняпроўскага краю «Выбар» мы ўважліва сочым за яе развіццём ва ўмовах, якія ніяк не назавеш камфортнымі. Зусім не выпадкова вядомы Ягор Лігачоў, які камандаваў ідэалогіяй у «перабудовачным» ЦК КПСС, пабываўшы на Віцебшчыне, расчулена прызнаўся журналістам, што менавіта тут ён убачыў набліжэнне рэчаіснасці да бальшавіцкіх ідэалаў. Цяпер, праўда, і ў Віцебску верныя ленінцы сваю дзейнасць услых не рэкламуюць, але яе вынікі навідавоку. Што ў замаруджанасці дэмакратычных працэсаў, што ў спіпласці набыткаў нацыянальнага Адраджэння. І нездарма ў адным са старажытнейшых і найбуйнейшых гарадоў Беларусі выдаецца фактычна ці не адзіная газета, пераважная большасць матэрыялаў якой друкуецца на дзяржаўнай мове рэспублікі. Гэта «Выбар».

Між тым беларускасць «Выбару» не зрабіла яго ні правінцыйным, ні зашораным, ні аматарскім, хоць у складзе рэдакцыі пакуль няма прафесійных журналістаў і працуюць энтузіясты-падзвіжнікі амаль на грамадскіх пачатках. Пагартаем старонкі сёлетніх асенніх нумароў «Выбару» — 18-га (вераснёўскага) і 19-га (кастрычніцкага). Вядома, што якраз восенню звычайна актывізуецца палітычнае жыццё ў краіне. Таму не дзіўна, што цэнтральнае месца ў вераснёўскім нумары заняў матэрыял, якога не знойдзеш у іншых газетах,— гэта поўны тэкст даклада Зянона Пазьняка «Палітычная сітуацыя на Беларусі і перспектывы яе развіцця», які лідэр БНФ 3 верасня г. г. зрабіў у Брусэлі для кіраўніцтва і супрацоўнікаў НАТА. І паколькі, як мы ўжо сказалі, рэспубліканскія сродкі масавай інфармацыі фактычна праігнаравалі гэты змястоўны і аналітычны дакумент часу, «Выбар» зрабіў важную паслугу не толькі для насельнікаў Віцебшчыны.

Дакладчык зазначыў,— паведамляе газета,— што вялікім дасягненнем нашага народа ў яго змаганні за незалежную і дэмакратычную Беларусь было стварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі. «Аднак,— сказаў З. Пазьняк, — у канцы 1918 года БНР была акупавана расійскім войскам. На невялікай частцы акупаванай тэрыторыі бальшавікі былі вымушаны дазволіць стварэнне марыянеткавай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, пакінуўшы сабе велізарныя беларускія абшары на ўсходзе з гарадамі Смаленскам, Невелем, Бранскам, аж да Ржэва і Дарагабужа. Гэтыя адвечныя беларускія тэрыторыі не вернуты Беларусі да сённяшняга дня...

Гады акупацыі,— падкрэсліў З. Пазьняк — гэта, перш за ўсё, палітыка этнацыду, асіміляцыі і генацыду, якая дасягнула асабліва жорсткіх і антычалавечых форм у часы бальшавікоў. За перыяд ленінска-сталінскіх рэпрэсій на Беларусі была знішчана амаль трэць яе насельніцтва (каля трох мільёнаў), знішчаны помнікі гісторыі і культуры, спалены старажытныя кнігі, разрабаваны нацыянальныя каштоўнасці, сфальсіфікавана нацыянальная гісторыя, зачынены беларускія школы, знішчана нацыянальная адукацыя. Ніколі яшчэ наш народ не выходзіў з гістарычных катаклізмаў, з палітычнага небыцця такім нацыянальна абяскроўленым...

Цяперашняе наменклатурна-камуністычнае кіраўніцтва Беларусі,— з горычу сказаў дакладчык,— не выраншыла і не спрабавала вырашыць ніводнай неабходнай праблемы нацыянальнага развіцця, лічачы за лепшае пасіўна плесціся ў рэчышчы разбуральнай палітыкі Расіі... хоць Беларусь — адна з найбольш развітых у эканамічным дачыненні дзяржаў у шэрагу рэспублік былога СССР, з навукаёмістай рознабаковай вытворчасцю, з даволі высокім узроўнем сельскай гаспадаркі (параўнаўча, вядома), з вялікім навуковым і інтэлектуальным патэнцыялам, з багатымі запасамі вытворчай сыравіны, з грамадскай стабільнасцю».

Лідэр БНФ лічыць, што «выхадам з такога становішча, якое не можа працягвацца доўга, могуць стаць нечарговыя, дэмакратычныя выбары новага парламента Беларусі».

Далей З. Пазьняк дэталёва ахарактарызаваў унутрыпалітычную сітуацыю ў рэспубліцы, пазнаёміў прысутных з гісторыяй і практычнай дзейнасцю БНФ. А скончыў так: «Істотна тое, што на Беларусі апазіцыю наменклатурнаму кіраўніцтву складаюць не антыдэмакратычныя, як у Расіі, а дэмакратычныя сілы. Таму мы з аптымізмам глядзім на нашу дзяржаўную і нацыянальную перспектыву. Будучыня БНФ і наша дэмакратычная свабода яшчэ наперадзе».

Звернем увагу на іншыя матэрыялы газеты. Вельмі знамянальна, што з нумара ў нумар «Выбар» рэгулярна змяшчае цэлую тэматычную паласу (часам — нават больш) «Прытуліся да роднай маці-мовы». Так, у вераснёўскім нумары чытачоў зацікавіў артыкул В. Сцяпанава з Оршы (ён, дарэчы, таксама з'яўляецца і адным з карэспандэнтаў «Нашага слова») «А куды падацца рускамоўнаму беларусу?» Тут выказана зразумелая трывога за лёс нашай мовы ў сувязі з тым, што зараз зноў пашыраецца кампанія за наданне рускай мове статуса другой дзяржаўнай, за так званае двухмоўе, якое на практыцы непазбежна ператворыць родную мову ў сучасны варыянт мёртвай лаціны. Другі аўтар, С. Надзеждзін, з сумам канстатуе, што мінулі ўжо два гады з моманту ўступлення ў сілу Закона аб мовах у нашай краіне, але ў Віцебскай вобласці «справа беларусізацыі... рухаецца марудліва і цяжка, калі не сказаць пакутліва». Ён ставіць справядлівае пытанне: чаму не клапоцяцца пра выкананне дзяржаўнага Закона аб мовах органы пракуратуры вобласці і раёнаў Віцебска?

На гэтай жа тэматычнай старонцы наступнага (кастрычніцкага) нумара ўсхваляваная гаворка пра незадавальняючы стан выканання на Віцебшчыне Закона аб мовах. Змешчаны вытрымкі са шматлікіх допісаў грамадзян у абарону роднага слова.

Адна з палос «Выбару» пастаянна прысвячаецца культурна-рэлігійнаму жыццю. Прычым уздымаюцца пытанні, якія з'яўляюцца набалелымі для ўсёй Беларусі. Да гонару аўтараў згаданых падборак і, безумоўна, рэдакцыі ў першую чаргу варта заўважыць, што тут кропкі над «і» заўжды пастаўлены з дакладнасцю і дасведчанасцю. І гэта, падкрэслім, у вельмі няпростых, часам наўмысна заблытаных рэлігійных праблемах, якія патрабуюць асаблівай тонкасці і далікатнасці. Але галоўнае — праўда. Калі, напрыклад, ледзь не ўсе менскія газеты паспешліва дружным хорам назвалі 1000-гадовы юбілей Полацкай епархіі «1000-годдзем праваслаўя на Беларусі», то М. Паўлаў на старонках «Выбару» заўважыў з добрым веданнем фактаў: «У 992 годзе яшчэ не было падзелу на Рымскую і Праваслаўную Цэрквы. Артадоксы (Праваслаўная Царква) канчаткова парвалі стасункі з рымскімі папамі ў 1054 годзе». Далей аўтар заўважае: «Руская Праваслаўная Царква як шчыры сябра КПСС і КДБ, знішчыўшы вялікі абсяг беларускай культуры і ментальнасці, яшчэ асмельваецца прыкідвацца сябрам беларускага народа!» Але ён не адмаўляе гэтай царкве ў натуральным праве на жыццё, прадказвае: «Праваслаўная Царква маскоўскага гатунку на Беларусі перспектывы не мае!.. Таму адзінае выйсце для Беларускага Экзархата Маскоўскай Патрыярхіі РПЦ — дамагацца Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Зразумела, пасля шырокага пакаяння за свае грахі на беларускай зямельцы».

Рэдакцыя «Выбару» асвятляе таксама жыццё беларускага замежжа — тэмы, якой для савецкага афіцыйнага друку не існавала зусім. Так, у верасноўскім нумары публікуецца рэзалюцыя 20-ай сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, якая нядаўна адбылася ў Нью-Браўнсвіку. Змяшчаюцца віншавальныя тэлеграмы ўдзельнікам гэтай сустрэчы ад прэзідэнта ЗША Джорджа Буша і губернатара штата Нью-Джэрсі Джыма Флёрыё.

У тым жа верасноўскім нумары — цікавы матэрыял да 200-годдзя вядомага рускага пісьменніка Івана Лажэчнікава, аўтара папулярнага гістарычнага рамана «Ледзяны дом», іншых таленавітых твораў, які ў 1853—1854 гадах служыў віцэ-губернатарам у Віцебску. Аўтар адзначае, што беларускія матывы займалі прыкметнае месца ў творчасці пісьменніка. Дарэчы, гэта публікацыя выбівае карты ў тых, хто схільны абвінавачваць газету ў так званай русафобіі.

«Выбар» смела выступае супраць «прыхватызатараў», чыё чыноўніцкае крэсла дазваляе лёгка блытаць дзяржаўную кішэню з уласнай. У верасні (ужо ў чацвёрты раз!) у поле зроку газеты трапіў не хто-небудзь, а сам намеснік старшыні абласнога Савета Т. І. Місуна, які прыклаў руку да таго, каб навенькі трактар МТЗ-80 з саўгаса «Азярцы» атрымаў ягоны уласны сынок.

Значную ўвагу надае газета праблемам нашай моладзі — той часткі грамадства, без якой заўтрашні дзень Беларусі уявіць немагчыма. У двух нумарах «Выбару» чытачы знаёмяцца з «Выбранецкімі шыхтамі» — добраахвотнай нацыянальна-адраджэнскай арганізацыяй, лозунгам якой з'яўляецца «Карысць для Беларусі», з «Аб'яднаннем беларускіх скаўтаў», якое апошнім часам больш і больш набывае прыхільнікаў.

Пад загалоўкам «Канец аднаго міфа» ў кастрычніцкім нумары газеты змешчаны прэс-рэліз Апазіцыі БНФ, дзе на фактах даводзіцца, што стэрэатып аб адсутнасці на Беларусі карысных выкапняў і ўласных энергарэсурсаў, які непазбежна быццам бы ставіць яе ў залежнасць ад Расіі, на самай справе з'яўляецца адным з камуністычных міфаў. Праўда, у дакуменце падкрэслена: тое, што знаходзіцца ў нашых нетрах, здабыць будзе не проста.

Як бачым, «Выбар» акрэслена вызначыў свой накірунак і шлях. Прыемна, што ў пакуль не надта шматлікай сям'і паслядоўна дэмакратычных перыядычных выданняў рэспублікі з'явілася такое годнае папаўненне.

**Мар'ян ВІЖ.**

# Да 110-годдзя Якуба Коласа

3 лістапада споўнілася 110 гадоў з дня нараджэння народнага паэта Беларусі, акадэміка АН Беларусі, аднаго з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры Якуба Коласа (Міцкевіча Канстанціна Міхайлавіча) — 1882—1956 гг.

І сёння, калі святкуецца 110-годдзе з дня нараджэння Якуба Коласа, можна з гонарам адзначыць, што створанае ім жыве і працуе на Адраджэнне.

...Уся творчасць вялікага паэта ёсць найглыбейшае адлюстраванне жыцця беларускага народа...

**К. ЧОРНЫ.**

Якуб Колас — не проста выдатны, высокааўтарытэтны ў вачах чытачоў пісьменнік, а пісьменнік — Педагог (з вялікай літары), пісьменнік — Настаўнік нацыі.

**Н. ГІЛЕВІЧ.**

Акінчыцы, Мікалаеўшчына, Ласток, Альбуць, Смольня, Цёмныя Ляды — маляўнічыя мясціны на Стаўбцоўшчыне, дзе жыла сям'я бацькі Якуба Коласа, простага лесніка Міхася Міцкевіча. Гэта куткі зямлі, з якімі Пясняр быў заўжды звязаны.

Цяпер згаданыя сядзібы складаюць мемарыяльны музейны комплекс. А філіялу музея Якуба Коласа ў Смольні сёлета споўнілася ўжо чвэрць стагоддзя. Побач з домам, дзе даўней жыла маці паэта і дзядзька Антось, вырас двухпавярховы будынак. Там размешчана літаратурная частка экспазіцыі.

Сёння, як і раней, шумяць старыя ліпы, пасаджаныя паэтам.

НА ЗДЫМКУ: тут, у Смольні, 80 гадоў назад упершыню сустрэліся два вялікія паэты Янка Купала і Якуб Колас.

**Фота Аркадзя МІКАЛАЕВА.**
**Белінфарм.**

*Якуб КОЛАС*

## *Беларускаму люду*

***Змоўкні ты, сціхні, песня пакуты,***
***Заварушыся, наш край!***
***Люд беларускі! Рві свае путы!***
***Новую песню спявай!***

***Дружна і згодна станьма сцяною,***
***Доля не прыйдзе сама,***
***Воля не зойдзе к нам стараною,***
***Збоку дарог ёй няма.***

***Люд! Праканайся: толькі мы самі —***
***Долі свае кавалі.***
***Годзі жа, досыць панукаць намі,***
***Гнаць з нашай роднай зямлі!***

***Нам паганятых болей не трэба —***
***Будзем мы жыць без паноў.***
***Самі вы дбайце лепей пра неба! —***
***Скажам мы так да ксяндзоў.***

***Хіба забудзем мы тыя межы,***
***Што правадзілі без нас?***
***Раны глыбокі, ох, яшчэ свежы!***
***Помсты агонь не пагас.***

***Нас падзялілі — хто? Чужаніцы,***
***Цёмных дарог махляры.***
***К чорту іх межы!***
***К д'яблу граніцы!..***
***Нашы тут гоні, бары!***

***Будзем мы самі гаспадарамі,***
***Будзем свой скарб ратаваць!***
***Годзе тэй крыўды! У ногу з братамі***
***Пойдзем наш край вызваляць...***

***Ох, і агорклі гэтыя кпіны!..***
***Злучым мы ў хор галасы:***
***Эх вы, разлогі роднай краіны,***
***Нашы палеткі, лясы!***

***Родны вы сэрцу нашаму, гмахі***
***Лесу, лугоў і палёў!***
***Досыць ўшчувалі нас паны-ляхі,***
***Ведаем ціск масkалёў!..***

***Змоўкні жа, сціхні, песня пакуты!***
***Заварушыся, наш край!***
***Люд! Вызваляйся, рві свае путы,***
***Новыя песні спявай!***

***1921 г.***

## *Згадкі*

*Язэп ГЕРМАНОВІЧ*

# ЗРАБІЎ ШТО МОГ

*(Заканчэнне. Пачатак у №№ 39—43).*

Дый толькі аднойчы за ўсё мае жыццё я быў у небяспецы падчас дарогі з Ашмян ў Гальшаны. Вёз мяне і майго таварыша Яна мой дзядзька Пётра Савіцкі. Выязджалі мы з Ашмян ужо добра пад вечар. Быў я добры абсерватар: заўважыў, што вее моцная завіруха і шугае снегам, а востры вецер б'е нам у вочы. Прытым мароз мацнее. Кабылка ў дзядзькі добрая, і, значыць, у нармальных варунках даехаць нам дваццаць вёрст няма што баяцца. Але ў гэты вечар не да жартаў! Я ўжо загадзя баяўся і меркаваў па дарозе, колькі мы праехалі і колькі засталося, бо дарогу ведаў як пяць пальцаў!

Адзетыя мы былі дастаткова, але дзядзьку было горш, бо ён трымаў лейцы і мусіў зважаць на дарогу, каб аб'язджаць гурбы, якія ўтвараліся навачну. Я прыкмеціў, што пад канец дарогі кабыла вельмі змучылася, бо вецер увесь час быў у вочы, а пасля пачаў задуваць і з левага боку. Нарэшце кабыла так змаглася, што проста аслепла і накіравалася направа, каб пайсці з ветрам... Мы зваліліся ў канаву, але не глыбока, і выехалі на гладзейшы шлях. Я спачатку не зміркіціў, што мы зышлі з дарогі. Але пачаў глядзець уважліва і закрычаў: «Дзядзька, мы дрэнна едзем!» — «Маўчы,— адказаў ён.— Якое дрэнна?» — А я цвярджу сваё: «Дрэнна! Бо дзе слупы тэлеграфныя?» Тут ужо і дзядзька спужаўся, бо мы сапраўды з'ехалі з гасцінца на поле. На шчасце, я добра знаў тое месца, бо ўжо было вярсты тры да мястэчка, дзе я пасвіў быдла летам. Дык я кажу: «Вярні налева!» Так мы вярнуліся і знайшлі гасцінец, бо інакш мы паехалі б у кірунку ракі — па далінах-горах і маглі б згінуць. Прайшло няшмат часу, як мы ўжо даехалі да хаты на гэтай самай Ашмянскай вуліцы. А мой таварыш, Янка Варсоцкі, ані разу не пікнуў, як бы яго нічога не датычыла, хоць быў у небяспецы разам з намі... Так Бог нас ратаваў, што я магу спакойна апісаць інцыдэнт, які мне добра запамятаўся!

Снягі наогул бывалі такія багатыя, што нашая (цётчына) хата бывала рубяжом, што затрымліваў мяцеліцу, і аднойчы так надало, што падарожнікі мусілі затрымлівацца з найлепшымі коньмі і заходзіць да нас, каб раскапаць горбы снегу. Затрымаўся тады і вялікі пан Ягмін, гаспадар замка, што ехаў бойкай парай коняў. Сапраўды быў «вялікі» — і фігурай і павагай, дый з вялікага панства нават не ўмеў па-простаму гаварыць, адно высокім тонам і па-расійску! Рантам, убачыўшы рукавіцы, якія ў Гальшанах рабілі на продаж, Ягмін сказаў: «Ну хорошо, сколько хотите за пару?» Узяў адну гатовую і прымераў на руку. Нашыя жанчыны, мая матка і цётка, не наважыліся назваць цану, а сказалі: «Колькі пан сам дасць». Тут узнікла труднасць, бо пан не хацеў у думках ні пераплаціць, ні недаплаціць. І бабы таксама баяліся запрасіць лішняе ці аддаць танней. Так абедзьве староны змоўклі, каб абдумаць справу. Трывала гэта мінутку, аднак кажны хацеў бы ўлезці ў думкі другой стараны. Нарэшце пан заплаціў па сваёй думцы, узлажыў рукавіцы на рукі і выйшаў, бо снег ужо быў пракапаны. А нашыя жанчыны загаманілі: крыху пасудзілі, што «слаба ж ён адплаціўся», але згадзіліся з сабой, што ён нас не пакрыўдзіў.

Наогул Беларусь не мела такіх суровых зім, як цэнтральная Расія, і асабліва, як Сібір, ані такіх бураў, як Амерыка, ані такой сушы, як Украіна ці Надволжа. Бывалі гады паўгалодныя, але поўнага голаду ў нас ніколі не здаралася. Толькі помню адзін год, калі забракавала вясной хлеба. Але калі ўсе паселі на бульбу, дык аніяк яе не пераелі да новае! А дагледжанае ворыва заўсёды давала добрыя ўраджаі, асабліва капусты...

Да з'яваў у прыродзе асаблівых, якія мне помняцца, мушу залічыць наступныя: 24-га чэрвеня, у дзень Святога Яна, раненька разбудзілі: «Хутчэй устань, сонца кіпіць!» Я саскочыў з пасцелі на двор і ўбачыў, што, сапраўды, сонца пераліваласся так, што можна было, не плюшчачы вачэй, глядзець на яго — аж было ўражанне, што кіпіць-пераліваецца!.. Пасля казалі, што на Яна гэта з сонцам бывае. Аднак ніколі больш нічога падобнага я на сонцы не бачыў. А здарылася гэта, як я вылічаю, у 1900 годзе.

Здаецца, што якраз у гэтым самым лецe прайшла ўночы такая бура ў вярстах трох ад Гальшан, што, будучы на пашы, я здалёку бачыў паложаную ветрам лясную дзялянку. Не вельмі шырокую, але доўгую. Маладыя сосны ў рост чалавека ляжалі там зламаныя, такія прыгожыя і роўныя, што мне зрабілася шкода бедных дрэваў!..

У 1904 годзе, калі не памыляюся, я хадзіў у працэсіі з Гальшан у Вішнева (17 вёрст). Гэта было другога ліпеня на фэст Божае Маці. Я сам бачыў, што пярун пабіў тэлеграфныя слупы пад самымі Гальшанамі на гэтым тракце. На працягу трох вёрст былі пашкоджаныя падрад усе слупы. Адны ляжалі, другія былі пашчэпленыя, а некаторыя ледзь мелі састругааныя ліштвы ці шчыліны, але абсалютна ацалеўшых не было ніводнага!

Каля 1906 года на рацэ здарылася вясной добрая паводка, так што лёдам у хвілінку знясло мост на Трабскай вуліцы. Але млын ацалеў і мост пабудавалі лепшы і мацнейшы, умацавалі грэблю дый крыху абсушылі балота, якое ляжала між млыном і хатай Савіцкіх. Балота называлі «Пеклам», таму і млын зваўся «Пад Пеклам». Але адзін беззямельны папрасіў назваленя паставіць там хату. Пазволілі, і ён навёз зямлі і вывеў зусім моцную будыніну. Толькі ж усе наўкола дзівіліся: «Як ён будзе жыць у самым Пекле»? Але яму нічога не сталася.

Вось і ўсе асаблівыя з'явішчы прыроды на Гальшанскім наваколлі. Але Першая сусветная вайна пакінула спаленыя будынкі. Гэта расійскае войска, уцякаючы ад немцаў, проста здуру спаліла, бо ніякага бою тут не было. Згарэлі будынкі на Ашмянскай вуліцы, у тым ліку згарэў дом удавы Трацячыхі, маёй цёткі, у якім мы жылі ў 1915 г. Змарнавалася ўсё наша дабро, і Трацячыха сама мусіла шукаць сабе кватэру. Пасля Марыя Трацячыха збудавала маленькую хатку. Але матка мая і сястра Людвіня ўжо з Марыяй жыць не змаглі ў той халупінцы... А вайна затрымалася ў дзесяці вярстах ад Гальшан.

